Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 12 820.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 25 лютага 1998 г. № 18 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

*Беларусь — Расія*

## Хто каму павінен?

**Прэзідэнт Лукашэнка, выступаючы ва Уладзівастоку, заявіў, што расійскі доўг Беларусі перавышае памер беларускага доўгу Расіі.**

Па словах Лукашэнкі, запазычанасць Беларусі складае сёння 120 млн. долараў. Тым часам Расія павінна значна больш — у прыватнасці, за абслугоўванне расійскіх аб'ектаў супрацьпаветранай абароны, размешчаных на тэрыторыі Беларусі.

Выступаючы 23 лютага ў Марской акадэміі ва Уладзівастоку Лукашэнка закрануў пытанне ўзаемаадносінаў Беларусі і Расіі з Захадам. *«Мы ўсё мацней пачынаем адчуваць эканамічны і палітычны ўціск з Захаду,* — сказаў ён. — *Беларусам не могуць даравать і саюз з Расіяй, і надзейную абарону нашай агульнай абароннай прасторы. У першую чаргу да беларускіх межаў хочуць наблізіць ваенныя рубяжы НАТО. Ужо зараз на тэрыторыі Польшчы дзейнічаюць цэнтры і праводзяцца «круглыя сталы» беларускай апазіцыі. Але мы захоўваем вытрымку, шукаем палітычныя шляхі вырашэння ўзнікаючых праблем. Аднак пазіцый сваіх, агульных інтарэсаў беларуска-расійскага Саюза і не ўступім нікому і ні пад якім уціскам».* Па словах А.Лукашэнкі, Беларусь і Расія павінны зыходзіць з таго, што гарантам іх незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці застаюцца абаронныя магчымасці дзвюх краін і іх узброеных сіл у прыватнасці. У гэтым плане стварэнне Саюза Беларусі і Расіі, лічыць прэзідэнт, дае *«унікальную магчымасць фарміравання адзінай абароннай прасторы, аб'яднання нашых абаронных патэнцыялаў».*

**Б.П.**

## Дэманстрацыя і мітынг у Дзень Канстытуцыі

**Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалай Статкевіч накіраваў у Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне ў нядзелю, 15 сакавіка мерапрыемстваў у гонар Дня Канстытуцыі.**

Мяркуецца, што ў 12 гадзінаў з плошчы Якуба Коласа пачнецца дэманстрацыя, якая пройдзе па праспекце Францішка Скарыны да Кастрычніцкай плошчы, дзе з 13:00 да 14:00 будзе праведзены мітынг у падтрымку прынцыпаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Для падрыхтоўкі святкавання створаны аргкамітэт, у які ўжо ўвайшлі прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. Чакаецца, што да іх далучацца прадстаўнікі іншых дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацыяў.

**Б.П.**

## Камунальны праект

Як паведаміла газета «Белорусский рынок», міністэрства эканомікі РБ распрацавала шэсць варыянтаў магчымага змянення тарыфаў за жыллёва-камунальныя паслугі з мэтаю давядзення гэтых паслугаў да 100-працэнтнай акупнасці. Мяркуецца, што спачатку будуць паднятыя плацяжы на адзін-два віды паслугаў, затым яшчэ на адзін-два, і так да той пары, пакуль стаўкі камунальных плацяжоў не дасягнуць узроўню затратаў прадпрыемстваў ЖКГ.

**М.Н.**

## Загінуў шэф КДБ

**Трагічна скончылася паездка ў таксі для начальніка Пінскага гараддзела КДБ Лявонція Марковіча.**

Увечары 13 лютага палкоўнік Марковіч разам з начальнікам Пінскага РАУС Міхаілам Заранкам і ягонай жонкай вярталіся дадому на прыватнай таксоўцы. Напярэдадні прайшоў дождж, а пасля ўдарыў мароз і дарога была абледзянелай. Каля вёскі Галева, што ў некалькіх кіламетрах ад Пінска, машыну занесла на павароце і яна перакулілася ў кювет. Начальнік міліцыі, ягоная жонка і таксіст абыйшліся лёгкімі цялеснымі пашкоджаннямі, а шэф КДБ у цяжкім стане быў дастаўлены ў ведамасны шпіталь у Мінску, дзе праз тыдзень памёр. Па факту дарожнай аварыі вядзецца расследванне.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*Аляксею Шыдлоўскаму далі паўтара года калоніі. Стольки ж Лабковічу — але ўмоўна*

# Лабковіча выпусцілі, Шыдлоўскага – у турму

Такі прысуд вынесла ўчора калегія мінскага абласнога суда ў складзе Лаўрова (старшыня), Дуброўскага і Аўтуховіч (народныя засядацелі). За тры гадзіны, праведзеныя ў дарадчым пакоі, яны вырашылі, што распісванне сценаў лозунгамі «Жыве Беларусь» ды іншымі — гэта крымінальнае злачынства.

16-ці гадовы Вадзім Лабковіч у сваім апошнім слове не прасіў суд аб міласці, а ўсяго толькі аб магчымасці завяршыць вучобу ў школе. Факт таксама з неверагодных. Гэта паказчык стану, да якога дайшло беларускае грамадства напрыканцы XX стагоддзя. Дзеці вымушаны вымольваць тое, што даецца ад нараджэння і абараняецца ва ўсім цывілізаваным свеце: магчымасць вучыцца.



*На здымку: Аляксей Шыдлоўскі ў атачэнні канвоя.*

Улада, між тым, дэманструе, што не збіраецца дзяліцца з кім бы ні было манаполіяй на распараджэнне чалавечымі лёсамі. Учора на ганку мінскага абласнога суда амонаўцы зноў правялі захопы тых, хто прыйшоў, каб выказаць салідарнасць з палітвязнямі. Яшчэ не пачалося паседжанне, а былі затрыманы чацвёра: Вадзім Канапацкі, Віталь Алексіёнак, Алесь Сарнацкі і Уладзімір Юхо. Іх даставілі ў апорны пункт, пры гэтым Уладзіміра Юхо збівалі. З падазрэннем на пераломам рукі Уладзімір Юхо з міліцыі быў дастаўлены ў шпіталь.

Дарэчы, за яго затрыманнем назіралі дзесяткі грамадзянаў, якіх не пусцілі ў судовую залу. У людзей хапіла цярпення і вытрымкі, каб не адказаць на правакацыі з боку амонаўцаў.

Адвакаты Шыдлоўскага і Лабковіча заявілі, што будуць асправаць прысуд і дойдуць, калі спатрэбіцца, да міжнародных судовых інстанцыяў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Студэнты не хочуць вяртацца на радзіму

**Сотні выхадцаў з краінаў Азіі і Афрыкі, якія ў свой час прыехалі вучыцца ў Беларусь, сталі фактычна эмігрантамі.**

Яны не хочуць вяртацца да сябе на радзіму, бо ў іхніх краінах ідуць грамадзянскія войны або змяніўся палітычны рэжым, а таксама не могуць заплаціць за далейшае навучанне. У Мінску гэтых людзей, якія апынуліся без сродкаў да існавання і жадаюць атрымаць статус уцекача на тэрыторыі Беларусі, узяла пад сваю апеку каталіцкая дабрачынная арганізацыя «Карытас».

Па словах дырэктара мінскага аддзялення «Карытаса» ксяндза Міхала Сапеля, у траўні 1997 г. паміж прадстаўніцтвам упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах уцекачоў і «Карытасам» было заключанае пагадненне аб супрацоўніцтве, і ў Мінску пачаў функцыянаваць цэнтр па аказанні юрыдычнай і сацыяльнай дапамогі ўцекачам. У цэнтр ужо звярнуліся каля 300 былых грамадзянаў Конга, Афганістана і іншых краінаў. Супрацоўнікі цэнтра аказваюць ім кансультатыўную дапамогу, бо многія з гэтых людзей проста не ведаюць сваіх правоў. Аднак атрымаць статус уцекача ў нашай краіне досыць складана, бо Беларусь да гэтага часу не падпісала Жэнеўскую канвенцыю, якая рэгламентуе парадак атрымання прытулку. Гэтай катэгорыяй эмігрантаў у нас займаецца спецыяльнае аддзяленне міністэрства працы, якое ў мінулым годзе ў якасці выключэння надало статус уцекачоў 40 выхадцам з Афганістана і Эфіопіі. Чыноўнікі гэтага ведамства гавораць, што ў штаце іхняга ўпраўлення працуе ўсяго 7 чалавек, і яны проста фізічна не ў стане задаволіць просьбы ўсіх жадаючых атрымаць прытулак у Беларусі. Прадстаўнікі «Карытаса» спадзяюцца наладзіць супрацоўніцтва з гэтай уладнай структурай, аднак, як нам паведамілі ва ўпраўленні па справах уцекачоў міністэрства, яны пакуль не збіраюцца каардынаваць свае дзеянні з рэлігійнай арганізацыяй. Таму пакуль супрацоўнікі цэнтра вымушаныя ўласнымі сіламі забяспечваць уцекачоў медыкаментамі, харчаваннем і адзеннем, а таксама дамаўляцца з адміністрацыяй інтэрнатаў, каб тыя не выкідвалі афра-азіяцкіх гасцей проста на вуліцу.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**




*Беларуска-літоўская мяжа.*

**Беларусь у хуткім часе можа стаць самай папулярнай краінай у нелегальных мігрантаў, якія імкнуцца патрапіць на Захад.**

**Толькі за першыя тры тыдні гэтага месяца аператыўнікі пагранвойскаў разам з прадстаўнікамі МУС і КДБ затрымалі звыш 400 выхадцаў з краінаў Азіі і Афрыкі. Усе яны мелі намер незаконна перасячы мяжу з Польшчай, Літвой і Латвіяй. Гэтая лічба ўражвае: у 1997 г. месячны «рэкорд» складаў 370 затрыманых.**

**Б.Р.**

# Ізраільскі пасол у Гомелі

## *Дыпломы за ўратаванне габрэяў*

Учора Часовы Паверанны ў справах Дзяржавы Ізраіль у Беларусі Гершон Заар наведаў Гомель, дзе ўручыў дыпломы «Праведніка свету» сямі беларускім грамадзянам, якія ратавалі габрэяў ад фашыстаў у гады Другой сусветнай вайны.

Заўтра такая ж урачыстая цырымонія адбудзецца ў Віцебску. Шэсць жыхароў Віцебскай вобласці атрымаюць аналагічныя дыпломы ад ізраільскай дзяржавы.

За час дзейнасці ізраільскага пасольства ў Мінску каля 120 беларусаў ужо былі прызнаныя «Праведнікамі свету». А ўсяго Ізраіль адзначыў тытулам «Праведніка свету» 14 тысячаў негабрэяў. Дарэчы, як паведаміла агенцтва JTA, Еўрапейскі Савет мае намер выдзеліць іерусалімскаму музею Халакоста «Яд ва-Шэм» 500 тысячаў долараў на выданне кнігі пра негабрэяў, якія рызыкавалі жыццём, выратоўваючы габрэяў ад фашысцкіх зверстваў.

*БелаПАН*

# Беларускія праблемы разглядалі ў Вене

**У Вене на паседжанні Пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ беларускі парламент прадстаўляў дэпутат Вярхоўнага Савета Уладзімір Нісцюк.**

На гэтым паседжанні, якое адбылося 20—21 лютага, са справаздачамі выступілі кіруючыя асобы АБСЕ і Парламенцкай асамблеі. Старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Польшчы Бранілаў Герэмэк узняў сярод іншых і пытанні па Беларусі. У прыватнасці, Б.Герэмэк расказаў прысутным пра працэс над В.Лабковічам і А.Шыдлоўскім, падкрэсліўшы, што на самой справе іх судзяць за іншадумства. Наконт прэтэнзіяў беларускіх уладаў да Польшчы з нагоды беластоцкага семінара, у якім бралі ўдзел беларускія апазіцыянеры, Герэмэк выказаўся даволі іранічна: *«Калі б польскія апазіцыянеры збіраліся на тэрыторыі Беларусі, я быў бы проста шчаслівы»*. На думку Герэмэка, еўрапейскія структуры павінны актыўна ўплываць на беларускія ўлады, каб дэмакратызаваць сітуацыю ў Беларусі.

Уладзімір Нісцюк распаўсюдзіў сярод удзельнікаў паседжання ліст старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, дзе распавядаецца пра справу дэпутата Клімава.

Традыцыйным чынам у адносінах да нашай краіны паводзіла сябе Расія. Яе прадстаўнік Л.Іванчанка разам з паслом Беларусі ў Аўстрыі В.Сісенкам паспрабавалі пераканаць Пастаянны камітэт, што парламентам Беларусі з'яўляецца лукашэнкаўскі «нацсход». Поспеху яны не мелі. На сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, што адбудзецца ў Капенгагене ў пачатку ліпеня, Беларусь ізноў будуць прадстаўляць дэлегаты ад Вярхоўнага Савета, а не ад «палаты».

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Лібералы ладзяць пікет

У пятніцу, 27 лютага, на рагу сталічных вуліцаў Няміга і Гарадскі вал пройдзе пікет па зборы подпісаў у падтрымку Хартыі-97 і з патрабаваннем вызваліць з-за кратаў дэпутата Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава. Пікет арганізоўвае Мінская гарадская арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Мерапрыемства санкцыянаванае Мінгарвыканкамам. Пікет адбудзецца з 13:00 да 14:00 гадзінаў.

**Уладзімір МІХЕЕЎ**



*На здымку: інтэгратары Эдуард Ханок, Ігар Лучанок, Уладзімір Мулявін, Іосіф Кабзон*

# Ствараюць новы саюз

**Заўтра, 26 лютага ў сталічным Доме афіцэраў некалькі пралукашэнкаўскіх арганізацыяў ладзяць мерапрыемства пад гучным дэвізам «За обновленный Союз».**

Арганізатары ставяць мэту *«актывізаваць грамадскую думку на аб'яднанне народаў краін СНД у адну дзяржаву, усенародна падтрымаць палітыку прэзідэнта Лукашэнкі, накіраваную на аб'яднанне былых рэспублік СССР»*.

Сярод удзельнікаў — госці з Украіны і Расіі. Менавіта на гэтыя краіны, як удзельнікі будучага «саюза», разлічваюць яго арганізатары. Дырэктар інстытута сацыялогіі АН РБ Яўген Бабосаў заявіў на прэс-канферэнцыі, што ў выпадку, калі *«некаторыя ўкраінскія палітыкі не захочуць гэтага яднання»*, то выбар зробіць сам народ, і тады *«не выключана нават раздзяленне Украіны на дзве часткі»*, — прыгразіў Бабосаў.

СНД не выконвае сваіх функцыяў, казалі прыхільнікі «обновленного союза». *«Акрамя таго, вельмі шмат народу ў названых краінах падтрымлівае нашую ідэю»*, — дадаў Бабосаў. Карацей кажучы, *«вагацца няма чаго, бо саюз будзе дзейнічаць лепш за СНД»*. А хто будзе кіраваць саюзам? *«Пакуль што рана пра гэта гаварыць*, — сказаў кампазітар Ігар Лучанок (ён таксама ў гэтай кампаніі). — *Але, на нашую думку і на думку сяброў з Расіі і Украіны, кандыдатура ёсць — прэзідэнт Беларусі Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка»*.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**



*На здымку: у мінскім мікрараёне «Уручча» актывісты БНФ правялі пікет у абарону арыштаванага дэпутата Клімава*

# Калі ў краме няма малака, дык лавіце «чаўнака»

**У Гомелі сёння амаль немагчыма купіць малако, тварог, смятану, сыр і танную каўбасу. Менавіта гэтыя прадукты харчавання традыцыйна спажываюць маламаёмныя грамадзяне, і іх адсутнасць выклікае масавую незадаволенасць.**

У сувязі з гэтым улады паспяшаліся перакласці віну за дэфіцыт прадуктаў першай неабходнасці на «чаўнакоў», якія нібыта вывезлі ўсе харчы ў Расію. Камітэт дзяржаўнага кантролю, міліцыя, абласное тэлебачанне і газета «Гомельская праўда» літаральна палююць на «чаўнакоў» на дарогах, вакзалах, транспарце. Нават робяць спецыяльныя рэйды ў расійскія гарады — Злынку і Навазыбкаў. У людзей канфіскуюць тавар і ўзбуджаюць крымінальныя справы, аб чым аператыўна інфармуюць насельніцтва. Праўда, ад гэтага прадуктаў у гомельскіх крамах не дабаўляецца.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Новае пакаленне выбірае... крымінал

**Летась на Гомельшчыне непаўналетнія ўчынілі 1.717 злачынстваў. Гэта амаль на 6 працэнтаў больш, чым у 1996 годзе.**

Як паведаміла камісія па справах непаўналетніх пры аблвыканкаме, малалетнія злачынцы пераважна займаліся крадзяжамі, хуліганілі, а таксама ўчынілі 12 забойстваў. Крымінальны выбух злачыннасці сярод падлеткаў адбыўся ў Лельчыцкім раёне, дзе колькасць злачынстваў за мінулы год павялічылася амаль утрая.

Аналітыкам яшчэ давядзецца высвятляць карані гэтай з'явы. Але відавочна, што галоўнай прычынай росту крымінальнасці сярод непаўналетніх з'яўляецца незанятасць вучобай або працай.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Налог на пиво и камни

## *Или золотое яичко гродненских властей*

К двум десяткам действующих на Гродненщине налогов в феврале добавился еще один — 5-процентный налог на продажу пива, винно-водочных, табачных изделий, изделий из драгметаллов и драгоценных камней в розничной торговой сети.

### В пользу нищих

Аргументы: областному бюджету требуются средства для компенсации убытков потребкооперации в связи с выравниванием цен на хлеб массовых сортов, а также возмещения расходов торговли по закладке масла животного и мяса на межсезонное хранение. В этом, собственно, нет ничего нового, как и в привычке властей ликвидировать убытки одних за счет других, а конечном итоге из кармана потребителя посредством неизбежного повышения цен.

В общем, тришкин кафтан, или, что иллюстративней — змея, кусающая собственный хвост. Если так, то очевидно и после двух лет «стабилизации» дела наши не столь благополучны, как об этом «твердят большевики». Доступные ресурсы уже ищерпаны (в стране и на предприятиях), и местный законодатель поднял цены на святые для электората табак и водку не от хорошей жизни. Такие темпы в подъеме народного потребления и впрямь могут завершиться полной «стабилизацией».

### Чукча ни причем, а выпить хочется

Частника-предпринимателя, поднимающего свое дело с нуля и под постоянной угрозой разорения, все эти поборы не могут не раздражать.

Новый налог уникален и тем, что здесь впервые «под одной крышей» объединены товары повседневного спроса и предметы роскоши. Возможно, уже кто-то накопил запасы ювелирных изделий, да к тому же золото за западной границей в полтора раза дешевле, чем у нас. Вводя налог на драгметаллы, «новые белорусы» уже практически ничем не рискуют, зато видимость демократических приличий соблюдена.

Новый налог зачисляется в бюджеты районов и городов с последующим перечислением 30% поступлений в областной бюджет. Учет и контроль осуществляют налоговые органы. Вероятно, они же будут контролировать и использование этих средств, эффективность которого подвергается основательному сомнению. А потому нет уверенности, что налог «на пиво и камни» не будет возрастать ежегодно на очередные 5%.

Поэтому больше всех обескуражены местные пивовары. Они просто боятся, что действующий акциз на пиво (40% от всей суммы выручки) усилиями властей вырастет до 70%, чтобы исключить «утечку» нашего товара в братскую Россию, где только и можно получить приличный навар. Получается, что, стремясь получить свое маленькое золотое яичко в 5 процентов, гродненские законодатели могут расколотить и большие государственные яйца. А это уже, как говорили в Одессе, есть гроссполитик.



*На двоих.*

Вся эта возня с местными налогами (в Минске такой налог действует уже второй год) очень напоминает дискуссии периода загнивающей перестройки. Помните, меха решили отнести к предметам роскоши и обложить их налогами, чем смертельно обидели чукчей и другие северные народы. Для них ведь и шапка, и кухлянка, и унты — это не роскошь, а суровая необходимость.

А вообще надо признать, что в нашей стране, где невыгодно производство молока для больных детей, спиртное и «камушки» остаются едва ли не единственным источником латания бюджетных прорех. Поэтому будут повышать и налоги, и цены. Тем более, что президент нашего НОК слывет трезвенником и учит народ заниматься физкультурой. Поэтому его приезд в Гродно, намеченный на начало весны, местные выпивохи будут встречать на трезвую голову и если не на лыжах, то с клюшками в руках. А после этого найдут что выпить.

**Сергей КАНУННИКОВ**

*Украіна*

## Інвестар дыктуе ўмовы

**Новыя мытныя пошліны Украіны не падабаюцца Еўрасаюзу**

Нядаўна Украіна ўвяла новыя правілы імпарту патрыманых аўтамабіляў замежнай вытворчасці — з 1 красавіка на тэрыторыю краіны нельга будзе ўвезці «іншамарку», якой больш за 5 гадоў альбо коштам менш за 5 тысячаў долараў.

Гэтыя абмежаванні былі ўведзеныя па просьбе паўднёвакарэйскага канцэрна *Daewoo*, які летась стварыў сумеснае прадпрыемства па вытворчасці аўтамабіляў разам з запарожскім «АўтаЗАЗам». Як вядома, «АўтаЗАЗ» — адзінае прадпрыемства на Украіне, якое выпускае аўтамабілі. *Daewoo* паабяцаў укласці ў развіццё і мадэрнізацыю «АўтаЗАЗа» 1,3 мільярда долараў — гэта болей за палову ўсіх замежных інвестыцыяў, што прыцягнула Украіна за апошнія 6 гадоў. За гэта *Daewoo* спачатку патрабаваў ад украінскага ўрада скасаваць большасць запазычанасцяў «АўтаЗАЗа» дзяржаве, а таксама вызваліць сумеснае прадпрыемства ад падаткаў ажно на дзесяць гадоў. Але, відаць, гэта паказалася яму мала, і вось цяпер — новыя ўмовы. Украінскі ўрад паслухмяна выконвае патрабаванні *Daewoo*, баючыся страціць такога багатага партнёра.

Еўрапейскі саюз незадаволены новымі ўмовамі імпарту аўтамабіляў на Украіну. Прадстаўнікі Еўрасаюза лічаць, што гэтыя ўмовы ствараюць «вельмі адмоўнае ўражанне» для іншых замежных інвестараў. Еўрасаюз таксама папярэдзіў Украіну, што калі яна не адмовіцца ад дзяржаўнай палітыкі падтрымкі манаполіста *Daewoo*-АўтаЗАЗ, то сусветная гандлёвая арганізацыя можа скасаваць дамову з *WTO* і Украінай, а сама Украіна можа не патрапіць у гэтую арганізацыю. Справа ў тым, што членства краіны ў Сусветнай гандлёвай арганізацыі дазваляе ёй гандляваць з іншымі краінамі, не плацячы мытных пошлінаў. Калі Украіна будзе настойваць на сваіх патрабаваннях да аўтамабіляў замежнай вытворчасці, дык за ўсе тавары, што яна вывозіць сёння бяспошлінна за свае межы, ёй давядзецца дорага заплаціць. А гэтага, вядома, ёй не хочацца.

*Падрыхтаваў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Купляй танкі!

**У Кіеве на ўкраінска-амерыканскім паседжанні абмяркоўваліся адносіны паміж Украінай і дзяржавамі-членамі *NATO*.**

На паседжанні ўкраінскі бок прапанаваў свой удзел у мадэрнізацыі ўзброеных сілаў Польшчы. Украінцы сцвярджаюць, што зброя, якую яны вырабляюць, па большасці параметраў адпавядае стандартам *NATO*.

Яшчэ ў кастрычніку 1996 года, падчас візіту ў Кіеў былога прэм'ер-міністра Польшчы Уладзімежа Цімашэвіча, была падпісаная польска-ўкраінская дамова аб узаемных пастаўках зброі, вайсковай амуніцыі і прадастаўленні паслугаў у вайскова-тэхнічнай галіне. Частка падпісанай дамовы мае грыф сакрэтнасці.

Украіна ўжо заключыла дамову з Пакістанам на пастаўку 320 танкаў тыпу *Т-80UD*. На чарзе старт Украіны ў тэндэры, аб'яўленым Турцыяй на пастаўку 1.000 танкаў.

**Янка ЧУРЫЛОВІЧ**

## Шеварднадзе заявляет, что покушение на него планировалось в Москве



Президент Грузии Эдуард Шеварднадзе заявил, что у него нет сомнений в том, что покушение на него 9 февраля и захват заложников в Западной Грузии 19 февраля планировались в Москве. *«Мне трудно об этом говорить и я не имею в виду, что к теракту имел отношение президент России Борис Ельцин, но в Москве есть силы, которые ради своего кресла могут не пощадить и своего президента, они все делают для того, чтобы через территорию Грузии не прошел нефтепровод, не был сооружен Евроазиатский транспортный коридор, так как после этого Грузия станет нужной всему миру страной»*, — подчеркнул президент, выступая на 3-м съезде возглавляемой им партии «Союз граждан Грузии». По его словам, *«силы, организовавшие теракт и взятие в заложники военных наблюдателей ООН, желали, чтобы в Грузии начался управляемый ими хаос, однако они просчитались»*. Э.Шеварднадзе заявил, что его беспокоит происходящее сейчас в России. По его словам, *«страна, где укрывают террористов, не может спать спокойно»*. Он обратился к руководству России с призывом наладить равноправные, взаимоуважительные отношения между двумя странами.

*Интерфакс*



*На снимке: грузинский спецназ возле обстреляного президентского "Мерседеса". Этот бронированный лимузин Эдуард Шеварднадзе получил в подарок от германского канцлера Гельмута Коля после первого покушения (в августе 1995 г.).*

## В США судят шпионов

В США выдвинуто официальное обвинение против трех американских граждан — 40-летней Терезы Марии Сквиллакоут, ее 43-летнего мужа Курта Алана Стэнда и 49-летнего Джеймса Кларка, арестованных по подозрению в шпионаже в пользу бывших ГДР, СССР, а также России и ЮАР.

Профсоюзный активист Стэнд был завербован разведкой ГДР в 1972 году. Спустя 4 года он сумел привлечь к сотрудничеству частного следователя Кларка, а примерно в 1980 году — свою супругу, работавшую юристом в Министерстве обороны США. Судя по всему, ФБР вышло на след шпионов на основе информации, полученной от бывшего офицера «Штази».

# Ядерной войны быть не может

***Старейший разработчик советской системы ПВО Владимир Анкор рассказывает о возможностях противоракетной обороны***

Иосиф Сталин остался недоволен итогами Второй мировой войны — так обиделся, что не стал принимать парад Победы. Ему нужен был социализм во всей Европе, а этой проблемы 1945 год не решил. Поэтому СССР стал готовиться к новой большой войне. Многие факты свидетельствуют, что развязать ее Союз собирался в 1953 году. А чтобы США не помешали осуществлению этих замыслов, вокруг Москвы Сталин велел создать самую лучшую в мире систему ПВО.



### Несчастливая рука вождя

Уникальная система ПВО вокруг Москвы представляет собой абсурдный анахронизм. Ее схему нарисовал сам Сталин, когда ему были продемонстрированы возможности зенитных ракет. Он обвел Москву двумя кольцами радиусом 45-50 и 80-90 км, на которых как виноградные грозди располагались подразделения ПВО.

Но нет такой крепости, которую не могли бы взять, причем не только большевики. Безнадежность придуманной Сталиным схемы противовоздушной обороны Москвы доказывает хотя бы то, что вокруг Ленинграда такую же систему достраивать не стали — угрохали уйму денег и бросили.

Дело в том, что противоракетная оборона бессильна перед атомным оружием. Раньше как было — исход боя, особенно воздушного, определялся по потерям. Немцы во время Отечественной войны, например, считали проигранным бой, если утрачивали треть участвовавших в налете бомбардировщиков, то есть две трети до цели долетали.

Теперь представьте, что на Москву летит сто ракет с атомными боеголовками. А достаточно для нас одной. Вопрос: какая система ПВО справится с такой задачей? В случае ста атомных ракет эта система должна иметь степень надежности 99,9%. А это в свою очередь означает, что каждый компонент развернутой системы ПВО должен иметь такую же степень надежности — 99,9% — при определении параметров цели, наведении, запуске ракеты и т. д. В общем, для надежного поражения одной атомной ракеты при самых оптимистических расчетах нужны три антиракеты, которые, кстати, представляют собой гораздо более совершенные устройства, чем атакующие баллистические ракеты. И еще нужно, чтобы антиракеты не мешали друг другу.

Но самое неприятное состоит не в том, что, допустим, ПВО не справится с поражением всех без исключения целей. Даже сбитая ракета с атомной боеголовкой остается оружием массового уничтожения. Будучи уничтоженной, она взрывается в стратосфере — и радиационные осадки накрывают огромную территорию. Чернобыль — это еще самый безобидный вариант последствий такой противовоздушной обороны.

Вот еще что важно. Первая же сбитая атомная цель, если взрыв происходит в ионосфере, выводит из строя все радиолокационное оборудование, без которого ПВО как без глаз. Ионизация, от которой «слепнут» любые локаторы, распространится по силовым магнитным линиям от полюса до полюса и будет держаться в течение получаса.

### Развивающаяся страна

Конечно, не на ПВО делал Сталин ставку в будущей войне. Главным в ней было атомное оружие, поэтому одновременно с ПВО и самой атомной бомбой разрабатывались носители, которые могли бы доставить заряд с одного континента на другой.

Носители предполагались двух видов: ракета и самолет. Ракета в те годы была делом новым и малопонятным, самолет же казался привычным и надежным. Разрабатывать самолет Сталин предложил Туполеву. Времени на разработку давал два года.

Туполев ответил, что за два года он такой самолет разработать не сможет. «А сколько вам нужно?» — спросил Сталин. — «Года три». — «Хорошо, мы поищем другого конструктора».

И эта задача была предложена Мясищеву. Но и Туполев принял вызов Сталина — и тоже принялся за работу. Сталин знал об этом и не мешал ему. Прав оказался Туполев: обоим конструкторам потребовалось по три года на создание межконтинентальных бомбардировщиков.

Мясищевский 3М успешно прошел испытания, а у туполевского Ту-95 в воздухе загорелся мотор, и половина экипажа погибла. Но когда дело дошло до регулярных полетов в частях, 3М стал то и дело биться. На нем боялись летать и окрестили «летающей могилой». А Ту-95 выпускается до сих пор, но уже в виде своего пассажирского варианта — Ту-114.

Странно, что только сейчас Россию стали относить к числу развивающихся стран. Мы всегда были развивающейся страной, это прекрасно видно на примере конструкторской работы. В СССР никогда не было создано ни одного самостоятельного авиадвигателя. Ни одного! Все сделаны с иностранных прототипов. Не потому, что в Советском Союзе не было талантливых людей, а потому, что не было условий для такого конструирования. Вот планеры у нас были хорошие и оригинальные — эта конструкторская разработка не требует такого технологического совершенства, такого глубокого опыта, особенно в материаловедении, как самолетный двигатель.

Технические задачи, в том числе и создание ракет, при подготовке к будущей войне Сталин поручил Берии и был ужасно прав. Только такой монстр мог справиться с поставленной задачей в той экономической и государственной структуре. Берия говорил: «Это надо сделать завтра», — и если назавтра дело было не сделано, человек исчезал.

Все всё делали назавтра. Это был единственный способ эффективной работы при социализме — репрессивный. Заключенные специалисты, работавшие с нами, были настоящими фанатиками и патриотами — таким образом они оправдывали в собственных глазах свое рабское положение. В наше КБ их привозили на специальном автобусе. В одежде заключенных специалистов не было ни единой штрипки или шнурка. Даже личный штампик, которым они запечатывали портфели, был у них не металлический, а резиновый.

К моменту расстрела Берии зенитная ракета «32» прошла 45 испытаний — и все 45 пусков были удачными. Такого результата не знает история техники ни в одной стране мира. Если взять аналогичный пример у педантичных немцев с Фау-2, так у них половина испытаний окончилась неудачно.

### Космический абсурд

Прорыв человека в околоземное пространство открыл новые возможности для надежд и фантазий. Одними из главных фантазеров оказались военные. Один из абсурдных проектов представляет собой американская система «Стратегическая оборонная инициатива», которую так пропагандировал Рейган. Хотя не исключено, что это просто прекрасно рассчитанная кампания по дезинформации противника.

Суть СОИ сводится к обнаружению и поражению прямо из космоса летящих к цели ядерных боеголовок. Если бы СОИ могла эти боеголовки прятать в карман или, на худой конец, выводить в космос, то ее задачи были бы оправданы. А так — радиация никуда не денется.

Наши военные тоже давно вышли в космос. Они разрабатывают два типа спутников: один — спутник-разведчик, другой — спутник-истребитель. Это абсурдная, хотя и весьма продвинутая отечественная разработка в космической области. Спутник-разведчик должен наблюдать за всем, что происходит на акватории Земли, в том числе под водой, а спутник-истребитель ориентирован на уничтожение спутников. Уже были неоднократные испытания истребителей, которые успешно сбили несколько спутников — наших, конечно.

В мирное время спутники-истребители использовать нельзя, хотя именно в мирное время и происходит главная разведывательная деятельность. А во время атомной войны такой спутник и вовсе бесполезен — обмен ударами длится считанные часы, удары наносятся по давно выявленным целям...

Но, как ни смешно, самая тяжелая, почти неразрешимая проблема — как отличить вражеский спутник от невражеского. Не будем забывать, что на околоземных орбитах сейчас можно встретить несколько тысяч самых неожиданных предметов — космос исправно исполняет роль свалки. И проблема обнаружения противника в открытом космосе пока не решена.

*Журнал «Эксперт» (Москва)*

# Мікалуцкі застаўся жывы

**Ананімны званок аб замініраванні прагучаў напрыканцы мінулага тыдня ў адміністрацыі калгаса «Абарона краіны» Рэчыцкага раёна.**

Невядомы мужчына, які пазваніў па тэлефоне, паведаміў бухгалтару, што праз 20 хвілін будзе ўзарваны дом старшыні калгаса Аляксандра Мікалуцкага. Група размініравання, якая як раз дыслацыруецца ў Рэчыцы і прыбыла ў калгас, выбуховага прыстасавання не знайшла. Па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле «злоснае хуліганства». Праваахоўным органам трэба будзе адказаць на пытанне, ці быў званок проста розыгрышам або пэўную ролю адыграла прозвішча старшыні калгаса, які, па некаторых звестках, з'яўляецца далёкім сваяком забітага восенню мінулага года кантралёра Яўгена Мікалуцкага.

# Гарыць гарэлка

## *Вялікі пажар здарыўся мінулымі выхаднымі на Гомельскім лікёра-гарэлачным заводзе*

21 лютага загарэўся склад гатовай прадукцыі, на той момант поўнасцю запоўнены скрынямі з гарэлкай. Да тушэння агню, які бушаваў каля шасці гадзінаў, было прыцягнута 11 пажарных машын. Устаноўлена, што прычынай пажару стала парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры правядзенні рамонтна-зварачных работ. Урон, нанесены прадпрыемству, пакуль невядомы, аднак відавочна, што сума яго будзе вельмі ўнушальнай.

*БелаПАН*

# Конкурс маладога снайпера

**Маладзёжная арганізацыя БНФ працягвае праводзіць у Мінску серыю спаборніцтваў пад назвай «Алімпіяда Маладога Фронту».**

У рамках алімпіяды праходзяць розныя нетрадыцыйныя конкурсы і спаборніцтвы. 20 лютага ў штаб-кватэры БНФ па вул.Варвашэні, 8 прайшоў конкурс прыгажосці «Міс Малады Фронт». У ім прынялі ўдзел дзевяць дзяўчат: пяць — ад Маладога Фронту і чатыры мінскія журналісткі.

«Нам балюча, але мы смяёмся», — сказаў, адкрываючы конкурс, лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец, нагадаўшы прысутным, што ў турэмным зняволенні знаходзяцца тры актывісты гэтай арганізацыі — Вадзім Лабковіч, Аляксей Шыдлоўскі і Вадзім Кабанчук. Журы складалася з лідэраў БНФ, а таксама дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валерыя Шчукіна і Паўла Знаўца. Вядучыя — Павел Севярынец і Аляксей Януковіч — бліскуча і трапна правялі конкурс. «Міс Малады Фронт» пасля трох тураў па колькасці набраных балаў стала студэнтка Наташа Маковік.

Алімпіяда працягваецца. У суботу і нядзелю адбыліся спаборніцтвы па прэферансе і камп'ютэрных гульнях. Бліжэйшымі днямі пройдуць матчы зімовага футболу, мінскі бабслей (па ўчарашнім снезе), конкурс маладога снайпера імя Лі Харві Освальда, шахматы, армрэстлінг.

# Студэнты не баяцца СНІДу. А дарма

**Сярод студэнтаў і навучэнцаў тэхнікумаў Мінска ёсць заражаныя вірусам СНІДу.**

Па інфармацыі спецыялістаў Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу, носьбіты інфекцыі зафіксаваныя ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, Беларускім дзяржаўным універсітэце і шэрагу тэхнікумаў. У Мінску колькасць афіцыйна зарэгістраваных ВІЧ-інфіцыраваных студэнтаў складае шэсць чалавек, аднак, як паведаміла журналістам спецыяліст Цэнтра Наталля Фірсава, на самой справе іх значна болей.

Развіццё наркаманіі сярод студэнтаў ВНУ сталіцы таксама выклікае сур'ёзную занепакоенасць у спецыялістаў, паколькі сёння большасць з выяўленых носьбітаў ВІЧ-інфекцыі з'яўляюцца шпрыцавымі наркаманамі. Самай істотнай крыніцай ВІЧ-інфекцыі для дзяцей і падлеткаў з'яўляецца адсутнасць ведаў аб шляхах перадачы інфекцыі. У часе нядаўняга сацыялагічнага апытання, праведзенага кафедрай сацыялогіі БДУ, больш як 90% маладых людзей адказалі, што не бачаць для сябе ніякай небяспекі заражэння ВІЧ/СНІД. Таму цяпер Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу актыўна працуе з міністэрствам адукацыі Беларусі, дзяржкамітэтам па справах моладзі і міністэрствам культуры ў напрамку пашырэння санітарна-гігіенічных ведаў. Варта адзначыць, што толькі летась на прафілактычныя мэты Цэнтрам было выдаткавана 33 млрд. рублёў, з іх толькі 1 млрд. рублёў выдзелены з дзяржбюджэту, а астатнія сродкі — спонсарская дапамога.

*БелаПАН*

*Людзі*

# Каралева кошак

У Турцыі жыве жанчына, чыё імя можна смела заносіць у кнігу рэкордаў: у яе жыве 600 катоў і кошак — і адзін сабака. Жанчыну завуць Акалін Туркан, яна ўжо пенсіянерка, жыве разам з 59-гадовым мужам. Дзяцей у іх няма. Акалін ахвяравала катам свой дом.

У чатырох нанятых апартаментах жывуць адныя каты, а сям'я Акалін наймае невялікую кватэру. Калісьці яны мелі дом, але потым яго прадалі — каб былі грошы на катоў.

Незвычайнае захапленне каштуе дорага — больш за 2 тысячы долараў штомесяц. А пачалося яно яшчэ 35 гадоў таму, калі Акалін пераехала з правінцыі ў Стамбул. Спачатку яна ўзяла ў дом трыццаць катоў, бо «не магла глядзець, як яны пакутуюць і хварэюць на вуліцах, і ніхто ім не дапамагае». З таго часу катоў у яе станавілася ўсё больш.

Акалін любіць сама карміць усіх сваіх гадаванцаў. Але дапамагаюць ёй два асістэнты — не так проста пароўну падзяліць ежу нават паміж двух галодных катоў, а калі іх шэсцьсот?! Калі яе акружаюць сотні галодных звяроў, гэта нагадвае сцэну з фільма жахаў. Але жанчына не палохаецца. Яна прывыкла.

# Падарунак ад прэм'ера

В'етнамская доўгажыхарка, якая прэтэндуе на званне самага старога чалавека планеты, нядаўна была ўдастоена пашаны ў сваёй роднай краіне. Як паведаміла в'етнамскае інфармацыйнае агенцтва, прэм'ер-міністр Во Ван Кет уручыў 117-гадовай Ле Тхі Ко новую крэсла-каляску, лакавую карціну, 170 долараў і адрэз шаўковай тканіны.

*Падрыхтаваў* **Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Спасибо, хоккеисты!

**Игра сборной Беларуси по хоккею на Олимпиаде в Нагано стала откровением для болельщиков и специалистов. Аппетит белорусских любителей спорта рос по ходу турнира. И если перед началом Игр мы мечтали о выходе нашей команды во второй этап соревнований, то потом мы уже мечтали о победе если не над Канадой, то над Россией... Редакция нашей газеты попросила прокомментировать игру белорусских хоккеистов одного из ведущих хоккейных обозревателей страны Владимира Завадского.**

Оценивая выступление белорусской хоккейной дружины на Олимпийском турнире в Нагано, сложно избавиться от извечной, еще ленинской дилеммы: что считать программой-минимум, а что — максимум. Никто не спорит, сам факт попадания подопечных Анатолия Варивончика на форум сильнейших команд мира — наивысшее достижение в истории нашего хоккея. Победа над не самыми слабыми в мировом рейтинге сборными, такими, как Франция (4:0) и Германия (8:2), и выход во второй этап — тоже почти поднебесный прыжок.

Однако выступление нашей команды в элите немного разочаровало и заставило задуматься. Дело не в результатах, с которыми мы проиграли грандам (Канаде — 0:5., США и Швеции — по 2:5). Они-то совсем неплохие, можно даже сказать, достойные. Дело в содержании показанной на турнире игры. Что называется, не играли сами и связали руки (то бишь клюшки) соперникам. В матчах группового турнира, которые по сути являлись тренировочными и выявляли лишь номера для четвертьфиналов, у Анатолия Варивончика и К° появилось широкое поле для тренерского маневра: твори, выдумывай, пробуй. Тем более, что, как оказалось, хваленые канадские и американские профессионалы приехали в Нагано такими «разобранными», что для них не нашлось даже места на пьедестале. Однако хроническое неумение игроков минского «Динамо» образца 1991-92 годов (а их в нынешней сборной большинство) забивать за матч больше двух шайб сказалось и в Нагано. Беззубая игра в большинстве привела к мысли, что этому компоненту игры на тренировках не уделялось должного внимания. В то время как соперники практически любое удаление нашего хоккеиста использовали. Американцы 4 из 5 шайб забросили Мезину в неравных составах. А сколько форварды сборной Беларуси не реализовали выходов один в один!..




*Матч Беларусь–Канада.*

Во многом причины неудач лежат в области психологии. За исключением Андриевского, Салея и Цыплакова, на уровне НХЛ в нашей команде никто прежде не играл, о силе соперников знали лишь понаслышке. Естественно, у большинства игроков перед выходом на лед в матче против команды Гретцки и Линдроса тряслись коленки. И полученные всего 0:5 поставим в первую очередь, в заслугу мастерству и везению челябинского вратаря Андрея Мезина. Титанический труд по «присвоению» ему в экстренном порядке белорусского гражданства окупился сторицей. На Олимпиаде, которая являлась также своеобразной ярмаркой молодых дарований, Мезин оказался, пожалуй, единственным из сборной Беларуси, чья фамилия попала в блокноты заокеанских скаутов. Из остальных выделим НХЛовца Руслана Салея, бросавшего в створ ворот соперников больше(!), нежели любой из нападающих, стабильного защитника Олега Романова и перспективного форварда Алексея Калюжного. Другие наши игроки, претендовавшие до Олимпиады на роль звезд, выглядели лишь тенью себя прошлогодних. Неубедительно смотрелся второй наш НХЛовец Владимир Цыплаков. Одна шайба в пяти матчах — катастрофически мало для такого нападающего. При жесткой опеке потерялся Андрей Ковалев, который раньше частенько решал в одиночку судьбу многих поединков. Из-за болезни пропустил матч с командой США капитан сборной Александр Андриевский, так и не восстановивший свои кондиции к концу турнира. Лишь на финише разыгрался его партнер по звену Андрей Скабелка, но, когда пришла карта, играть оказалось уже не с кем...

Решающей и наиболее разочаровавшей выдалась встреча в 1/4 финала против сборной России. Белорусские хоккеисты за прошедшие после союзного развода шесть лет от рабоЛепия перед старшим братом избавиться так и не смогли. Белорусы, вышедшие на игру с обреченностью в глазах, предпочитали играть в бесконтактный хоккей и «уверенно» довели матч до логического завершения — 1:4. никто, видимо, не хотел, чтобы назавтра в Беларуси отключили газ... Впрочем, не стоит сурово критиковать нашу любимую команду. Конечно, хотелось бы большего, так уж устроена болельщицкая натура, но придется довольствоваться тем, что есть. Объективно, наше место в мировом рейтинге сейчас — седьмое-восьмое. Играть против команд, укомплектованных хоккеистами из НХЛ, — все равно что сражаться с инопланетянами, подавляющими неизвестным нам доселе оружием. Выше головы в Нагано наша сборная не прыгнула, достигнув потолка, пробить который можно лишь в случае дальнейшего развития хоккея в стране, строительства новых ледовых арен, открытия новых детско-юношеских спортивных школ. Не будем забывать, что только 4 хоккеиста сборной из 24 не являются воспитанниками минской СДЮШОР «Юность». Представляете, команда одно-единственной школы против целой индустрии производства игроков, каковой является Канада. Подготовка резерва для сборной — дело первостепенной важности. Андриевскому, Панкову и Карачуну уже под 30 лет, до следующей Олимпиады в Солт-Лейк-Сити могут и не доиграть. Кто придет им на смену?

А о том, что наша хоккейная сборная сделала для престижа и авторитета страны гораздо больше, нежели иные политики, даже и говорить не хочется — старо. Браво, сборная!

**Владимир ЗАВАДСКИЙ**




*Матч Беларусь–США.*



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1156 Нумар падпісаны ў друк 19.02.98 (15:00) Наклад — 12.820